*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 52 (1515) 30 СНЕЖНЯ 2020 г.


# З Новым 2021 годам!

## Будаваць новую Беларусь на Евангеллі

**заклікаў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падчас святой імшы на Свята Божага Нараджэння 25 снежня ў Чырвоным касцёле ў Менску**



Вялікую радасць адчувалі вернікі ў гэты дзень, бо духоўны айцец, адзін з галоўных маральных аўтарытэтаў у краіне, вярнуўся да сваіх дзяцей.

Усе прысутныя вернікі горача прывіталі яго несціхаючымі апладысментамі.

- Сёння, калі я перасёк мяжу, машына спынілася, я стаў на калені, маліўся з удзячнасцю Богу за вяртанне і пацалаваў зямлю, - распавёў іерарх. - Я нарадзіўся на гэтай зямлі і пакліканы служыць ёй. Бацькаўшчыну нельга выкінуць з сэрца!

- У нас няма АМОН-у, няма танкаў, няма самалётаў, але ў нас ёсць Евангелле, - сказаў мітрапаліт Тадэвуш перад пачаткам службы. - І мы будзем будаваць новую Беларусь на Евангеллі, - прамовіў святар.

- Нечаканыя выклікі, якія выпалі на долю свету і нашай краіны, якія паказалі крохкасць сучаснага сусветнага парадку і яго ўразлівасць, агалілі духоўныя праблемы сучаснага чалавека, - сказаў іерарх. - Ён даверыў сябе не Богу, але самому сабе, свайму інтэлекту, развіццю навукі, тэхналогіі, культуры. Эпідэмія паказала, што гэтага занадта мала, бо мікраскапічных памераў вірус пачаў супрацьстаяць магутным гэтага свету і паставіў іх на калені.

Каронавірус змяніў прывычны ўклад жыцця сучаснага свету і прымусіў задумацца над тым, якое месца на зямлі і ў гісторыі чалавецтва займаюць Бог і чалавек.

- Складаная грамадска-палітычная сітуацыя ў нашай краіне, якая стала новым выклікам, таксама заклікае нас звярнуць большую ўвагу на Бога і захаванне Божага закону, - дадаў арцыбіскуп. - Наколькі іншымі былі б наша Бацькаўшчына і нашае жыццё, калі б мы жылі згодна з законам любові да Бога і бліжняга! Калі б узаемна ўмелі прабачаць адзін аднаму! Калі б, будучы living рознымі, былі аб'яднанымі клопатам пра агульнае дабро!

- Нам сёння патрэбна вакцына Ласкі Божай праз Езуса Хрыста, - сказаў на заканчэнне мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.

- Радасць наша мае сёння асаблівую паўнату, - адзначыў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. - Яднаемся ў малітве і ідзём за нашым пастырам. Жадаю ўсім радасных, поўных Ласкі Божай свят, шчаслівага і спрыяльнага Новага года!

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*




## Віншаванне ад старшыні ТБМ



**Паважаныя сябры!**

Пакрысе адыходзіць у гісторыю 2020 год. Ад самага пачатку, зважаючы на тое, што гэта высакосны год, мы былі гатовы да неспадзяванак і розных не вельмі пазітыўных рэчаў. Тым не менш імкнуліся захаваць аптымістычны настрой, спадзяваліся на лепшае, працавалі і верылі ў тое, што зможам самі зладзіць сваё жыццё найлепшым чынам.

**2020 год прынёс нам шмат расчаравання.**

Новая пандэмія, якая абрынулася на ўвесь свет і зачапіла кожную краіну, дагэтуль забірае нашых родных, блізкіх і сяброў. Нас прывучаюць аддаляцца адзін ад аднаго, закрывацца і трымаць дыстанцыю.

Чарговая прэзідэнцкая кампанія 2020 г. узрушыла ўвесь беларускі народ. Зноў былі вялікія спадзяванні, што яе вынікі прывядуць да значных палітычных зменаў і паспрыяюць развіццю нашай краіны ў дэмакратычным кірунку, каб кожны беларус адчуваў сябе часткай грамадства і быў здольны уплываць на прыняцце рашэнняў. На жаль, нягледзячы на ўсе намаганні і ахвяры, пакуль што светлая будучыня чарговы раз для нас адсоўваецца на няпэўны час.

**І ўсё ж прыгадаю словы класіка: “Ночка цёмная на свеце вечна не пануе…”**

Здаўна ў святочныя калядныя дні наша народ марыў і загадваў жаданне на прыход святла і цяпла, на добры ўраджай, на дабрабыт. Будзем верныя нашым лепшым традыцыям, будзем працаваць дзеля нашай мары, дзеля таго, каб Беларусь урэшце стала краінай для жыцця.

Я віншую ўсіх вас з традыцыйнымі зімовымі святамі - Днём Божага нараджэння і Новым годам. Жадаю вам найперш добрага здароўя, радасці і ўпэўненасці ў нашай сіле. Няхай гаючая сіла сонца, якая павялічваецца з кожным днём і набірае моц, уліецца ў кожнае сэрца беларусаў і дапаможа адолець усе перашкоды, прагоніць цемру і выведзе нас на добры шлях.

Старшыня ТБМ Алена Анісім.






# Заява Сойму Партыі БНФ

## у абарону нацыянальнай сімволікі

**19 снежня 2020 г.** **г. Менск**

У беларусаў з глыбіні вякоў і да цяперашняга часу герб Пагоня ды бел-чырвона-белы сцяг былі, ёсць і заўсёды будуць найбольш важнымі нацыянальнымі сімваламі, сімваламі свабоды, годнасці, незалежнасці Радзімы, народнага абуджэння і нацыянальнага адраджэння.

Гэты факт яскрава засведчылі шматсоттысячныя дэманстрацыі гэтага года ў Менску і незлічоныя шэсці ды мітынгі з дзясяткамі тысячаў удзельнікаў па ўсёй Беларусі пад бел-чырвона-белымі сцягамі, тысячы бел-чырвона-белых сцягоў у дамах і кватэрах беларусаў, упрыгожаныя ў нацыянальных бел-чырвона-белых колерах двары і кварталы.

Нашыя нацыянальныя сімвалы маюць багатую, годную, велічную гісторыю. Многія стагоддзі пад Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам нашыя продкі баранілі краіну, перамагалі ў бітвах і войнах, будавалі, стваралі, развівалі нашую культуру і навуку.

Змаганне за свабоду і незалежнасць паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі ды Кастуся Каліноўскага, герояў Слуцкага Збройнага Чыну было асвечанае нашымі нацыянальнымі сімваламі, Пагоняй і бел-чырвона-белым сцягам, а іх самаахвярнасць зрабіла Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг яшчэ больш значнымі і каштоўнымі.

Менавіта бел-чырвона-белы сцяг ды Пагоня сталіся афіцыйнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі, калі ў 1918 годзе народ Беларусі абвясціў незалежнасць нашай Бацькаўшчыны ды аднавіў дзяржаўнасць нашай нацыі, што зрабіла магчымым і існаванне сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Спробы камуністычнай савецкай, а пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі і цяперашняй афіцыйнай прапаганды, ачарніць і дыскрэдытаваць нацыянальную сімволіку фактам дазволу на яе выкарыстанне ў акупаванай нацыстамі Беларусі падчас Другой сусветнай вайны, прыраўняць яе да фашыстоўскай ды нацысцкай сімволікі, з'яўляюцца цалкам хлусіївымі, брыдкімі і нахабнымі, супярэчаць фактам ды самі будуюцца якраз паводле метадаў ды запаветаў аднаго з ідэёлагаў нацызму ды стваральніка хлуслівай злачыннай гітлераўскай прапаганды Ёзафа Гебельса.

Тым больш недарэчнымі і абсурднымі выглядаюць тэзы афіцыйнай прапаганды аб неабходнасці забароны бел-чырвона-белага сцяга як сімволікі, што выкарыстоўвалася калабарантамі ў часе II сусветнай вайны, што цяперашні расейскі трыкалёр, які актыўна ды абсалютна бесперашкодна выкарыстоўваюць у Беларусі не толькі амбасада, прадстаўніцтвы ды грамадзяне РФ, але і асобныя беларускія грамадзяне, а нярэдка і супрацоўнікі беларускіх дзяржаўных органаў, у тым ліку МУС ды МА, вельмі шырока выкарыстоўваўся расейскімі вайсковымі фармаваннямі, што ваявалі на баку і пад камандаваннем нацысцкай Нямеччыны.

Пад бел-чырвона-белым сцягам адбывалася і нацыянальнае адраджэнне ды аднаўленне беларускай дзяржаўнасці ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг былі дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь з 1991 па 1995 год. Па іроніі лёсу, Аляксандар Лукашэнка стаў першым Прэзідэнтам нашай дзяржавы і прымаў прысягу менавіта пад бел-чырвона-белым сцягам. Але і свой першы "рэферэндум", дзеля правядзення якога былі злачынна збітыя народныя дэпутаты Беларусі з фракцыі БНФ проста ў зале паседжанняў Вярхоўнага Савета, ён скіраваў супраць нацыянальнай сімволікі.

Ворагі беларушчыны знішчалі нацыянальныя сімвалы і беларускую мову, каб знішчыць свабоду і годнасць нашага народа, каб зламаць волю да адстойвання свайго права "людзьмі звацца". Бо і ў 90-х, і ў 2000-х, і цяпер, у 2020-м, ва ўсю моц - на адстойванне сваіх свабодаў, каштоўнасцяў ды інтарэсаў народ Беларусі выходзіць пад нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі.

Асаблівa вар'яцкімі формы, метады і маштабы змагання дзяржаўнага апарата з бел-чырвона-белай сімволікай становяцца цяпер. МНС, камунальшчыкі, міліцыя, адміністрацыя школаў ды іншых установаў, афіцыйная прапаганда - усе магчымыя сродкі кінуты дзяржаўнай машынай на змаганне з бел-чырвона-белымі сцягамі, стужкамі, парасонамі, вопраткай, бялізнай, снегавікамі, шлагбаўмамі.

За бел-чырвона-белыя сцягі ў вокнах сваіх кватэраў беларусаў абвінавачваюць у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах ды караюць штрафамі да арыштамі.

Раман Бандарэнка, які выйшаў ва ўласны двор высветліць, на якой падставе невядомыя ў масках зразаюць белыя ды чырвоныя стужкі, якімі жыхары ўпрыгожылі свой двор, быў забіты.

У афіцыйнай прапагандзе ўсё больш настойліва гучаць тэзы аб неабходнасці забароны бел-чырвона-белага сцяга.

Партыя БНФ выказвае рашучы пратэст супраць усіх спробаў забараніць або абмежаваць выкарыстанне гістарычнай нацыянальнай бел-чырвона-белай сімволікі, а таксама супраць намаганняў дыскрэдытаваць бел-чырвона-белы сцяг ды герб Пагоня.

Партыя БНФ патрабуе спыніць пераслед беларусаў за выкарыстанне бел-чырвона-белай сімволікі ў сваіх дамах, кватэрах, аўтамабілях, дварах.

Партыя БНФ разглядае ўсе праявы ціску рэжыму на нацыянальную сімволіку як пераслед беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, скіраваны на пазбаўленне беларускага народа праяваў нацыянальнай ідэнтычнасці.

Партыя БНФ нагадвае беларусам, што таксама важнай праявай нацыянальнай ідэнтычнасці і сімвалам патрыятызму з'яўляецца нашая родная беларуская мова, і заклікае ўсіх грамадзян пашыраць выкарыстанне беларускай мовы ва ўсіх сферах ужывання, у тым ліку ў стасунках з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі, а таксама ініцыяваць і патрабаваць стварэнне беларускамоўных групаў і плыняў у навучальных установах розных узроўняў.

Немагчыма забараніць Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, як немагчыма забараніць праўду і прагу да жыцця. Штучнае ніколі не пераможа сапраўднае, мёртвае ніколі не пераможа жывое.

З нашымі святымі нацыянальнымі сімваламі - сіла нашага народа, які абудзіўся, вера і надзея, мужнасць і салідарнасць беларусаў у гэтыя месяцы, слава і веліч нашых продкаў, Божае дабраславенне.

Бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня - сімвалы нашай перамогі, якую няздольныя прадухіліць ніякія сілы цемры, гвалту ды хлусні.

Жыве Беларусь!

# Сталін не баяўся бел-чырвона белай гамы








У 1944 годзе з нагоды вызвалення Беларусі меліся выпусціць медаль. Мастакі Гаўрыленка, Гямбіцкі, Гусева і інш. падрыхтавалі эскізы. Многія, як па замове або змове, выканалі стужку медаля ў бела-чырвоных колерах, а ўзор Гаўрыленкі (верхні) амаль паўтарае бел-чырвона-белы сцяг. Медаль чамусьці не выпусцілі, але і, каб мастакоў рэпрасавалі за ўзор стужкі, чуваць не было. Сталін адэкватна ўспрымаў беларускія нацыянальныя колеры, ніякіх калабарантаў за імі не бачыў.

***Наш кар.***

# Хто галоўны вораг беларускіх уладаў?

Назіраючы за падзеямі, якія сёння адбываюцца ў краіне, складаецца ўражанне, што такім ворагам з'яўляецца бела-чырвона-белы сцяг - БЧБ-сцяг. Яму аб'яўлена сапраўдная вайна. Яго аўтакранамі здымаюць з высотных дамоў, спілоўваюць дрэвы на якіх ён вісіць, высякаюць з лёду, звозяць са сквераў лаўкі, размаляваныя пад сцяг, штрафуюць людзей, што вывешваюць яго на сваіх гаўбцах, знішчаюць нават бела-чырвоныя стужкі, штрафуюць і садзяць на содні тых, хто на сваім адзенні і парасонах мае гэтыя колеры. Здаецца, хутка дабяруцца і да дзяржаўных сцягоў, на якіх прысутнічае беларускі арнамент у бела-чырвоным колеры. Усім відавочна абсурднасць гэтага.

З кожным днём барацьба з ім узмацняецца. Сёння ён на вышэйшым узроўні абвешчаны нацысцкім сімвалам. Каб пераканаць беларускі народ у гэтым, пачалі скарыстоўваць так званыя дыялогавыя пляцоўкі. Першая з іх у нашым раёне прысвячалася абмеркаванню змен у дзейную Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Другая, што адбылася 17 снежня, была прысвечана тэме экстрэмізму, нацызму і БЧБ-сцягу. На яе былі запрошаны сябры Каардынацыйнай рады грамадскіх аб'яднанняў, палітычных партый і прафарганізацый. У дыялогу прынялі ўдзел кіраўнікі мясцовай улады, дэпутат ПП НС па нашай акрузе і ў якасці "цяжкой артылерыі"- тройчы дэпутат НС докт. гіст. навук Марзалюк І.А.

Дык вось, ніякага дыялогу не адбылося, а быў маналог вышэйназванага дэпутата. Ён вельмі эманацыянальна прачытаў двухгадзінную лекцыю па азначанай тэме. Выступілі, задалі пытанні ўсяго каля пяці прысутных, якіх ён пастаянна перапыняў. Адказы зацягваў, часта паўтараючы тое, што выказваў у лекцыі. Паседжанне цягнулася каля чатырох гадзін без перапынку. Галоўную ўвагу свайго выступу ён засяродзіў на выкарыстанні БЧБ-сцяга ў часы Вялікай Айчыннай вайны беларускімі калабарантамі, якіх называў падонкамі, шваллю, здраднікамі, правёўшы паралель з сённяшнімі дэманстрантамі, паказаўшы іх генетычную сувязь з імі. Пры гэтым, доктар навук распавёў нам, што вокліч "Жыве Беларусь!" нашы нацысты перанялі з фашысцкага "Хайль Гітлер!". Вось так!? Хаця свае воклічы калабаранты пасылалі краіне, а не нейкаму свайму лідару. Гэта па-першае, а па-другое, доктару гістарычных навук не пашкодзіла б ведаць, што аўтарам вокліча з'яўляецца Я. Купала.

Мяркую, што падобныя "дыялогі" будуць адбывацца па ўсёй краіне. Галоўная іх мэта адцягнуць увагу беларусаў ад сапраўдных прычын цяперашняга палітычнага крызісу і звесці да барацьбы супраць БЧБ-сцяга, а то і ўвогуле супраць белага і чырвонага колеру, што ў выніку можа прывесці нават да дэфіцыту тканіны і ўсяго, што мае белы і чырвоны колер.

*Сябар ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*
***С. Бародзіч,***
*Асіповічы.*





## "Сыны святла ведаюць сваю канчатковую мэту, вядуць дыялог у любой сітуацыі і прыслухоўваюцца да іншадумцаў"




У мінулыя гады на Нараджэнне Хрыстова дзяржаўнае тэлебачанне вяло трансляцыю з менскай катэдры, але ў гэтым годзе стрым вёўся з Магілёва. Вікарны біскуп Магілёўскі Аляксандр Яшэўскі, упершыню апынуўшыся на авансцэне, выступіў з прамовай настолькі ж выверанай па фармулёўках, наколькі прынцыповай па сваім мэсэджы.

Крыніцы "Нашай Ніві" ў Касцёле расказалі, што тэлебачанне прапанавала, каб імшу вёў любы біскуп, толькі не Юрый Касабуцкі. Генеральны вікарый Менска-Магілёўскай арцыдыяцэзіі біскуп Касабуцкі звярнуў увагу на сябе палкімі казаннямі ў верасні і кастрычніку, калі за межамі краіны аказаўся мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. Калі планавалася тэлетрансляцыя, сам Кандрусевіч яшчэ быў не ў краіне, улады далі яму дазвол вярнуцца перад самымі святамі.

Касцёл прапанаваў зладзіць трансляцыю з Магілёва, з касцёла Унебаўзяцця Святой Дзевы Марыі і Святога Станіслава.

Вікарны біскуп Аляксандр Яшэўскі пачаў сваю прамову падчас службы з падзякі ўсім тым, чыімі малітвамі і высілкамі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч змог вярнуцца да сваёй паствы.

Біскуп маліўся, каб *"у гэты складаны час каронавіруса і грамадска-палітычнага крызісу, каб Бог спыніў эпідэмію і каб перамагла Божая праўда і справядлівасць"*.

Далей біскуп гаварыў пра цынічныя паводзіны цара Ірада, прэфекта Юдэі Понтыя Пілата, а таксама першасвятара Каяфы. І вось у гэты *"безнадзейны час у гісторыі, падчас гэтага беззаконня Бог прыйшоў у свет"*, - сказаў біскуп. *"Ён не прыйшоў, каб знішчыць ірадаў, Ён прыйшоў як святло надзеі, гаючае святло, ціхае святло"*, - адзначыў біскуп.

*"Бог бачыць шарлатанаў, якія скажаюць Божую праўду, але працягвае ціха жыць у чалавеку". "Спакой Божы прыходзіць адным шляхам - праз выкананне Божай Волі, калі мы імкнёмся быць добрымі да нашых бліжніх"*, - казаў біскуп.

*"Самае страшнае - гэта грэх,* - цытаваў святога Францішка Сальскага біскуп Яшэўскі. - *Але другое самае страшнае - гэта жыццё ў страху, ці калі адсутнічае мір".*

*"Народ, які не прызнае Бога, ходзіць у цемры"*, - нагадаў біскуп Яшэўскі.

*"Людзі цемры неабходны дыялог замяняюць на маналог і баяцца іншадумцаў, яны вядуць і іншых да вечнай цемры".*

*"Сыны святла ведаюць сваю канчатковую мэту, вядуць дыялог у любой сітуацыі і прыслухоўваюцца да іншадумцаў". "Менавіта таму нараджэнне Хрыста можа параўнаць са святлом"*, - казаў біскуп.

*"Колькі існуе тэрору, гвалту і рэпрэсій!"* - сказаў біскуп пра цяперашнюю сітуацыю на свеце.

*"У гэтым годзе свята не такое радаснае"*, - адзначыў біскуп. *"Увесь свет скаланула пандэмія каронавіруса, а Беларусь - грамадска-палітычны крызіс. Ці можа быць поўнаю радасць, калі за сямейным сталом з'яўляюцца пустыя месцы або калі ў сям'і жалоба?"* - пытаў біскуп.

Ён таксама гаварыў пра *"выпрабаванне пандэміяй". "Няхай нашы ўрачы і ўвесь медперсанал адчуваюць падтрымку ад Бога і ад нас, вельмі ўдзячных ім людзей".*

*"Няхай у нашай краіне настане супакой, пераможа Божая праўда, справядлівасць і свабода*, - заклікаў біскуп Яшэўскі. - *Каб стаць народам, трэба сустрэцца адно з адным у дыялогу, тварам у твар і плячо ў плячо. Няхай Беларусь наноў стане краінай міру і ўзаемапавагі"*, - зноў падкрэсліў біскуп у прамове, настолькі ж выверанай па фармулёўках, наколькі прынцыповай па сваім змесце і заключаным у ім пасланні.

Пасля казані людзі на розных мовах - па-беларуску, расейску, польску, англійску, літоўску - прыгожа маліліся ў тым ліку за ўлады, каб яны прыслухоўваліся да людзей, і за тых, хто не можа сустрэць свята дома праз эміграцыю і іншыя прычыны. А таксама за хворых на каронавірус і за маці, якія чакаюць нараджэння дзяцей.

***Паводле Сяргея Гезгалы,***
*https://nn.by/*

## Смуткуем па сябру

Памёр ад каронавіруса сябар Слуцкага таварыства беларускай мовы **Саковіч Сяргей Міхайлавіч**, 1970 года нараджэння. Яму споўнілася толькі 50 гадоў. Быў выключна адданы беларускай мове і заўсёды размаўляў толькі на беларускай мове. Рана застаўся без бацькоў, жыццё яго было даволі складаным. Таварыства беларускай мовы смуткуе з-за заўчаснай смерці свайго сябра.

# Слова Божае мовай роднаю




Сябры Валожынскай суполкі ТБМ зноў абрадавалі землякоў-аматараў роднай мовы і культуры - выпусцілі чарговы каляндар на 2021г. (адзін ліст). Прысвечаны ён святарам-патрыётам, якія (кожны ў свой час) у сваёй пастырскай дзейнасці кіраваліся і кіруюцца не толькі бязмежнай любоўю да Бога, але і вялікай павагай да людзей, роднага слова, культуры.

Адзін з іх - усім добра вядомы легендарны ксёндз-марыянін, перакладчык Бібліі і літургічных тэкстаў Уладзіслаў Чарняўскі, які з 1953г. быў пробашчам касцёла Адведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Вішневе. Як вядома, гэта адзіны святар на Беларусі, які багаслужэнне вёў па-беларуску. 14 студзеня 2021 г. яму спаўняецца 105 гадоў, а 22 снежня - 10 гадоў як адышоў да нябеснага Айца, якому так шчыра служыў тут, на зямлі. Дзякуючы самаахвярнай працы парафіянкі Тарэсы Бітэль, на 100-годдзе святара быў адкрыты музей У. Чарняўскага. Дарэчы, і сёння ён утрымліваецца на ўласныя сродкі спадарыні Тарэсы.

Другі святар, якога прэзентавалі, - протаіерэй Сяргей Лепін, доктар тэалогіі, дацэнт Менскай духоўнай акадэміі. 10 гадоў ён узначальвае прыход Свята-Праабражэнскай царквы ў Ракаве. Суаўтар і вядовец тэлеперадачы "Святыні Беларусі". Гэта мужны і сумленны чалавек, які сёння смела выказаў сваю грамадзянскую і святарскую пазіцыю.

Пазначаны асноўныя праваслаўныя і каталіцкія святы, дзяржаўныя святы, некаторыя памятныя даты, а таксама нагаданы юбілеі асоб, якія так ці інакш звязаны або з нашым рэгіёнам, або з асноўнай тэмай нашага выдання "Слова Божае мовай роднаю". Каляндар зручны ў карыстанні, дае асноўную культурную, духоўную інфармацыю.

***Наш кар..***

# Перакідны краязнаўчы каляндар на роднай мове

У Гародні выйшаў з друку беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар Гарадзеншчыны на 2021 год. Яго падрыхтаваў гарадзенскі прафесар Аляксей Пяткевіч. А рэдагаваў каляндар Станіслаў Суднік з Ліды.

Гэта ўжо дванаццаты выпуск Гарадзенскага абласнога краязнаўчага календара, якога не маюць у іншых абласцях Беларусі. У новым календары пададзена каля паўтысячы важных і цікавых датаў з гісторыі Гарадзеншчыны, што яшчэ раз пацвярджае яе багацце і напоўненасць падзеямі і асобамі праз гады і стагоддзі. З краязнаўчага календара на 2021 год мы ўжо сёння можам даведацца, што ў наступным годзе юбілеі будуць ў многіх вядомых асобаў Гарадзеншчыны: 120 гадоў з дня нараджэння Мікалая Марцінчыка, 120 гадоў з дня нараджэння Антона Жэбрака, 90 гадоў з дня нараджэння Алега Лойкі, 130 гадоў - Язэпу Варонку, 125 гадоў - доктару Андрэю Пракапчуку, 145 гадоў - Цётцы, 120 - Серафіму Жыровіцкаму, 160 - Ігнату Буйніцкаму, 75 - Уладзіміру Някляеву…

Аздабленне календара сёлета выканана па матывах беларускіх выцінанак, якія, як і арнаменты, з'яўляюцца неад'емнымі спадарожнікамі беларусаў па жыцці.

Краязнаўчы перакідны каляндар на 2021 год з'яўляецца пэўным крокам у развіцці гарадзенскага абласнога краязнаўства.

***Барыс Баль**, Беларускае Радыё Рацыя.*



# “Беларус” - 2020

У Нью-Ёрку выйшаў 13-ты том Літаратурнага альманаха беларускіх пісьменнікаў замежжа “Беларус”. У фаліянце за 2020 год - 486 старонак. Заснавальнік і выдавец - Марат Клакоцкі.

У альманаху - аўтары з усяго беларускага і не толькі, свету, ад Беласточчыны да Іспаніі і Канады: АБЛАЖЭЙ Алег, БОРТНІК Вячаслаў, ВОРАНАЎ Віталь, ГРЫГАЛЬЧЫК Пятрусь, ДАВЫДЗЕНКА Зміцер. ЖВАЛІКОЎСКІ Юрась, ЗАЙКА Віталь, ЗЯНОН, КАБАНАВА Святлана. КАВАЛЕЎСКІ Віктар, КРАЖОВА Марына, КУХАРЧУК Валеры, ЛАПАТКА Якуб, ЛІЯКУМОВІЧ Цімох, МАРЦІНШ ДУШ РЭЙШ Ванда, МУРЗЁНАК Пётра, ПАЗЬНЯК Галіна, ПАНІЗЬНІК Сяргей, ПАЎЛІЎ Алег, ПРАНЦЭВІЧ Анатоль, СНАРСКАЯ Іна, СОКАЛАЎВОЮШ Сяржук, ТАРАНОВІЧ Алесь, ХАДАРЭНКА Ірына, ХАЦКЕВІЧ Аляксандар, ШАМЕЦЬКА Юрась, ШЧУР Макс, ЭСПІНОСА РУІЗ Анхэля, ЯКІМОВІЧ Валянціна.




Асобную цікавасць у томе выклікае п’еса ЗЯНОНА “Акупацыя”. Воляй лёсу дзейныя персанажы п’есы - “любімыя” героі сённяшняга беларускага тэлебачання: Іван Ермачэнка - старшыня "Самапомачы", Вацлаў Іваноўскі - старшыня Менскай гарадской управы, Анатоль Комар - старшыня Менскай гарадской управы, Вітаўт Тумаш, Антон Адамовіч, Юльян Саковіч - старшыня Менскай гарадской паліцыі, Усевалад Родзька, Пётра Шашкель, Барыс Рагуля, Міхась Рагуля, Франц Кушаль, Наталля Арсеннева, Уладзімір Гуцька-Дудзіцкі, Міхась Вітушка і іншыя.

Аўтар ва ўступе абяцае быць па-максімуму праўдзівым і не ісці ўслед за міфамі і ацэнкамі НКВД, чаго і чытачам зычыць...

**Наш кар.**

# “Вадзяныя млыны Пастаўшчыны”

На днях атрымаў па пошце падарунак - кнігу "Вадзяныя млыны Пастаўшчыны". Яе аўтары: настаўнік геаграфіі і астраноміі вышэйшай катэгорыі Ігар Пракаповіч і яго таленавітыя вучні 10 класа Пастаўскай гімназіі: Іван Апанасевіч і Кацярына Семенас. Выданне мае наклад 50 асобнікаў і аздоблена добрымі фотаздымкамі краявідаў, млыноў і дакументаў ... Кніга ўяўляе сабой падрабязны даведнік па вадзяных млынах Пастаўшчыны, які ўкладзены ўдзельнікамі краязнаўчага гуртка "Terra incognita" Пастаўскай гімназіі на аснове экспедыцыйных даследаванняў, архіўных і літаратурных крыніц.




Выданне будзе вельмі карыснае ўсім, хто цікавіцца культурай сваіх родных мясцін, а таксама тым, хто займаецца даследчай, адукацыйнай і асветніцкай дзейнасцю: навукоўцам, настаўнікам, бібліятэкарам, экскурсаводам і краязнаўцам. Кнігу яшчэ магчыма набыць у аўтараў.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры.*

***Ігар Пракаповіч**, настаўнік геаграфіі і астраноміі вышэйшай катэгорыі Пастаўскай гімназіі. Выдатнік адукацыі. Сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі, Вучонага савета беларускага геаграфічнага таварыства, рэспубліканскай Рады Беларускага фонду культуры. Пераможца Віцебскага абласнога конкурсу "Настаўнік года-95" рэспубліканскага конкурсу Таварыства беларускай школы "Беларускі настаўнік года - 2009", лаўрэат звання "Чалавек года Віцебшчыны - 2009", лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2015), лаўрэат прэміі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў (2016). Аўтар каля 60 краязнаўчых, празаічных і паэтычных кніг.*

***Іван Апанасевіч**, вучань 10 класа Пастаўскай гімназіі. Пераможца раённых алімпіяд па фізіцы і матэматыцы, прызёр раённага конкурсу даследчых работ "Эўрыка" па матэматыцы. Закончыў музычную школу па класе баяна, удзельнік узорнага духавога аркестра (іграе на саксафоне). Самастойна вывучыў мовы web-праграмавання і напісаў сайт з інтэрактыўнай картай. У вольны час захапляецца рыбалкай, фатаграфіяй.*

***Кацярына Семенас**, вучаніца 10 класа Пастаўскай гімназіі. Пераможца раённых алімпіяд па беларускай мове, удзельніца раённай алімпіяды па англійскай мове і пераможца раённых конкурсаў даследчых работ "Глорыя" па англійскай мове. Захапляецца музыкай і роварнымі вандроўкамі па роднай Пастаўшчыне і па Мядзельшчыне. Піша вершы і выконвае песні, іграе на гітары.*

# "Пакласці вышэй адзін камень на карысць Радзімы нашай…"

У віры грамадска-палітычных падзей незаўважна мінулі ўгодкі знакавай постаці - Франца Савіча. Без перабольшвання будзе сказана, што гэта папярэднік Каліноўскага, а можа, ягоная асоба значна маштабней, як мысляра.

Франц (Францішак) Андрэевіч Савіч нарадзіўся ў 1815 годзе ў сям'і ўніяцкага святара, які меў прыход у вёсцы Вяляцічы, што на Піншчыне. Паспяхова скончыў Пінскае павятовае вучылішча і паступіў у Віленскую медыка-хірургічную акадэмію.



*Франц Савіч, малюнак Алены Гаеўскай, Менск, 2014 год.*

*"З дзяцінства, колькі сябе памятаю, мае мары былі аб свабодзе, аб Радзіме. Усе мы іх мець павінны, бо атрымалі з малаком маці, бо песня, якую спявалі ля нашых калысак, так гучала, бо дзецям старыя пра гэта распавядалі…"*, - з нататкаў дзеяча.

Савіча адрознівала не толькі цяга да ведаў, неардынарнасць мыслення, але і строгасць у паводзінах. Яму было агідна назіраць, як, здавалася б, будучыня нацыі - студэнты, марнуюць процьму часу на гулянкі і п'янкі. Ён катэгарычна асуджаў такія паводзіны: *"Ці зменіўся дух моладзі ... Сталі штодзённасцю п'янкі, гульні, распуста"*. Студэнцтва для Франца праходзіць у пакутах. Ён задаецца глыбокімі пытаннямі і старанна шукае адказ, неабыякавы да лёсу Айчыны, якая запала ў "летаргічны сон" пад кайданамі дынастыі Раманавых: *"Але што я магу дзеля маёй Радзімы зрабіць - сам без прытулку, без усялякай свабоды, ва ўбогім стане? Сэрца маё адказвала: Хрыстос не нарадзіўся ні на троне, ні ў палацы, а ў галечы, у стайні на сене, усё жыццё быў убогі, хоць панаваў і пануе на зямлі і на небе. І сказаў вучням сваім: "Хто хоча ісці за мной, няхай адрачэцца ад усяго, вазьме крыж свой і ідзе за мной"*. Такія думкі перакаралі мяне, што, маючы моцную волю, я магу быць карысны братам і пакласці вышэй адзін камень на карысць Радзімы нашай…". Такі лёс мысляра - блукаць у пустыні пытанняў і знайсці крыніцу адказу. Знайдзі тую формулу, той сэнс, які б дапамагаў яго суайчыннікам мацавацца і не задавацца, ісці наперад і не спыняцца ў сваім развіцці.

*"Увесь час я працаваў над сабой, чэрпаў навуку з кніжак і жыцця, казаў сам сабе не аднойчы: маючы душу і свабоду, ад Бога дадзеную, ніяк яе змяніць нельга, бо гэта б супярэчыла даскаваласці Стваральніка, Святой кнізе…"*.

У 1836 годзе Савіч разам з паплечнікамі стварыў "Дэмакратычнае таварыства". Авангард падпольнай арганізацыі складалі студэнты, каля 60 чалавек. Таварыства распаўсюджвала дзейнасць далёка па-за Вільняй, філіі меліся на Гарадзеншчыне і Меншчыне, для камунікацыі выкарыстоўваліся псеўданімы і паролі. Дзякуючы развіццю сеткі структур, колькасць чальцоў "Дэмакратычнага таварыства" неўзабаве дасягнула сотняў. Яны ставілі за мэту барацьбу з беззаконнем, дапамогу бяздольным, выхаванне ў моладзі высокіх маральных прынцыпаў. Выступалі за вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёй. Франц Савіч, акрамя функцый старшыні таварыства, выконваў таксама абавязкі скарбніка і сакратара, напісаў статут арганізацыі - "Прынцыпы дэмакратызму". Дакумент прадугледжваў дасягненне сацыяльнай справядлівасці, павагі сярод народаў, талерантнасці, развіццё інстытута правоў чалавека. Рэалізоўваць ідэі планавалася рэвалюцыйным шляхам. Акрамя статута, арганізацыя брала на ўзбраенне праккламацыі, што пісаў Савіч, сярод якіх: "Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам або, якое наша становішча, і што ў наш час рабіць людзям сумленным". (…) *“Будзем гартаваць дух, працаваць да канца жыцця! Хто ведае, дзе і як прызначана нам памерці? Магчыма, не адзін з нас пампрэ ад рукі ката! Але хай і смерць яго будзе працягам барацьбы за свабоду! І з вышыні шыбеніцы, як з вышыні трона, павінен заклікаць: паўстаньце, народы! Паўстаньце ў імя растаптаных правоў чалавека! Вось кароткі нарыс барацьбы, якую вядзе Еўропа і якую трэба нам весці з дэспатызмам ... Ведаем, што велізарныя будынкі будаваліся з малых цаглін, няхай жа кожны з нас падрыхтуе сваю цагліну і пакладзе яе на сваё месца, не пытаючыся пра заканчэнне справы. Бяздзейныя людзі, людзі слабадушныя, у апраўданне бяздзейнасці кажуць, што ім няма чаго рабіць...*” - урывак з праккламацыі. Для дасягнення поспеху ў рэалізацыі задач і падрыхтоўкі вызваленчага паўстання "Дэмакратычнае таварыства" мела партнёрскія сувязі з шэрагам падпольных арганізацый: "Садружнасць польскага народа" Шымона Канарскага, арганізацыя Брынко і Навіцкага ў Гарадзенскай губерні, "Жаночы саюз" на Валыні. Усе яны імкнуліся вярнуць страчаныя свабоды пасля падзелу Рэчы Паспалітай. Расейская ўлада рабіла ўсё, каб больш не дапусціць паўтарэння падзей 1830-1831 гадоў. Пасля першага вызвольнага паўстання народаў былой Рэчы Паспалітай махавік рэпрэсій набіраў абароты. Русіфікацыя, павялічыўся кантынгент расейскіх войскаў, вялася барацьба з усім нацыянальным. Пад удар царызму патрапілі яркія прадстаўнікі інтэлігенцыі, рамеснікі і шляхта. Ліквідавалі Віленскі ўніверсітэт, забаранілі ўніяцтва ды адмянілі Статут ВКЛ. Улетку 1838 года дзейнасць "Дэмакратычнага таварыства" была згорнута, некаторых актывістаў высачылі, частка з'ехала ў эміграцыю альбо ўглыб Расейскай імперыі, каб згубіцца на яе бязмежных прасторах. Савіч трапіў у няволю, дзе вытрымаў чарговае выпрабаванне. У вязніцы яго замардавалі настолькі, што гатовы быў прыняць цяжкі грэх - самагубства. Савіча катавалі да самага прысуду, які вынеслі ў лютым 1839 года. Доўгія месяцы карнікі спрабавалі выбіць яўкі і паролі, каб выявіць усё падполле, але не атрымалася. Дапытваў мысляра князь Трубяцкі, у метадах не сароме́ўся: *"... цягаў за валасы, біў кулаком у твар, валіў на падлогу, таптаў і мясіў нагамі, пакуль я не сыходзіў крывёю"*. Нягледзячы на катаванні, Савіч разгледзеў сутнасць князя-ката: *"Быў гэта чалавек нізкі, худы, чорны, з набеглымі крывёю вочкамі, вераломны, хітры; ён то, як ліс, то зноў, як сабака, кусае; з чорнай душою, а сумленне яшчэ больш чорнае, без літасці, з сэрцам, у якім ніякіх шляхетных пачуццяў ніколі не было"*. Па выніку суда Савіча саслалі жаўнерам на Каўказ. Ён неадназова ўцякаў. Аднойчы інсцэніраваў самагубства, але быў злоўлены і два гады прасядзеў у турме, пасля яго зноў адправілі ў войска. Увесну 1844 года зрабіў чарговую спробу ўцёкаў, і яна аказалася паспяховай. З чарнігаўскага батальёна ўнутранай аховы, дзе служыў памочнікам фельчара, рухаўся да мяжы. Паплечнікі вырабілі і перадалі яму падробленыя дакументы. Пакінуць Украіну так і не змог. У 1845 годзе Франц Савіч вывіхнуў нагу і вырашыў затрымацца ў бліжэйшым мястэчку, якім аказаўся Янушполь (цяпер гэта ў Жытомірскай вобласці Украіны). Тады ў ваколіцах Янушполя панавала эпідэмія халеры. Савіч, як лекар па адукацыі, пачаў дапамагаць людзям і сам стаў ахвярай хваробы. Незадоўга да смерці паспеў перадаць паплечнікам мемуары.



*Мемарыяльны помнік Савічу ў родных Вяляцічах, здымак Міколы Кузіча, 2016 г.*

***Пятро Савіч,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*





# БЕЛАРУСКА-АФГАНСКІЯ ПАРАЛЕЛІ

29 снежня - чарговая гадавіна ўводу войскаў СССР у Афганістан. Сёння бачацца некаторыя аналогіі, гістарычныя паралелі, пэўнае падабенства паміж Рэспублікай Беларусь і тагачаснай Дэмакратычнай Рэспублікай Афганістан.

У 1979 годзе Савецкі Саюз умяшаўся ва ўнутраныя справы ДРА. Былі ўведзены войскі для "аказання садзейнічання афганскаму народу ў адбіцці ўзброенай агрэсіі звонку", хоць, насамрэч, ніхто не збіраўся нападаць на Афганістан. Кіраўніка краіны Хафізулу Аміна забілі і замест яго паставілі Бабрака Кармаля. Аміну не даравалі самавольнае, без адабрэння кіраўніцтва СССР, забойства папярэдняга кіраўніка Афганістана Нур Мухамеда Таракі. Рэжым у Афганістане не памяняўся. Як быў недэмакратычны і прасавецкі, так і застаўся. Памяняласся першая асоба рэжыму.

Сёлета Расея, правапераемніца СССР, у чарговы раз умяшалася ва ўнутраныя справы Беларусі. Расея як ніколі актыўна ўключылася ў так званы "выбары" прэзідэнта нашай краіны не для таго, каб усталяваць у нас дэмакратыю і ўмацаваць суверэнітэт Беларусі, а каб аслабіць дзяржаву Беларусь, яшчэ мацней прывязаць да Расейскай імперыі і "рускага свету", замяніць свавольніка Лукашэнку на другога свайго стаўленіка - газпрамаўскага банкіра Бабарыку. Уладзімір Уладзіміравіч пакрыўдзіўся, што Лукашэнка ў снежні 2019 года не падпісаў так званую "31-ю дарожную карту", якая прадугледжвае стварэнне наднацыянальных органаў (агульны парламент Беларусі і Расеі, агульны прэзідэнт і інш.), увядзенне агульнай валюты і адзінага эмісійнага цэнтра.

Але! Здарылася нечаканае і для бабарыкінскай каманды і яе маскоўскіх лялькаводаў, і для самога беларускага кіраўніка. Пасля бойні 9-12 жніўня беларусы паўсталі супраць Лукашэнкі. У такой сітуацыі дыктатар Пуцін не рашыўся стаць "вызваліцелем" беларусаў ад дыктатара Лукашэнкі. І гэта зразумела. Сёння падчас народнага паўстання ў Менску зрынуць Лукашэнку, а заўтра рускія ("дрэнны" прыклад заразны) зрынуць у Маскве Пуціна. Ды і дзе гарантыя, што ў запале беларусы не расхістаюць і не зрынуць і сам рэжым? І зноў жа гэта будзе "кепскі" прыклад для рускага народа! Натуральна, абодва дыктатары адклалі свае міжусобныя спрэчкі на потым, і ў жніўні 2020 года расейская дыктатура выратавала беларускую.

40 гадоў таму кіраўнікі Афганістана і Савецкага Саюза расказвалі сваім грамадзянам "казкі" пра абарону цэласці і суверэнітэту Афганістана перад пагрозаю знешняй агрэсіі з боку Пакістана і ЗША.

Пасля 9 жніўня 2020 года кіраўнікі Беларусі і Расеі расказваюць сваім грамадзянам "казкі" пра абарону цэласці і суверэнітэту Беларусі перад пагрозаю знешняй агрэсіі з боку Польшчы і НАТА. Адно, цяпер да прамой ваеннай інтэрвенцыя справа (пакуль) не дайшла. "Інтэрнацыянальная" дапамога Расеі беларускаму народу на сёння аналагічна той, якую СССР аказваў афганскаму рэжыму да ўводу Савецкай Арміі 29 снежня 1979 года (дарадчыкі, журналісты-прапагандысты, узбраенне і напагатове расейская нацыянальная гвардыя і армія).

41 год таму Амін, перакананы сталініст, сябар і верны саюзнік Савецкага Саюза, паплаціўся галавою за сваё свавольства. Невядома, які лёс наканаваны Лукашэнку. Адно добра вядома! Планы імперскай Расеі праглынуць Беларусь (з Лукашэнкам ці без яго) не памяняліся!

Найважнейшая задача беларусаў сёння - захаваць нашу дзяржаўную незалежнасць да таго часу, пакуль Расея не стане на шлях дэмакратычнага развіцця альбо калі там здарыцца нешта такое, што прымусіць расейскую ўладу заняцца сваімі ўласнымі праблемамі, а яшчэ лепей - праблемамі сваіх грамадзян, каб ёй (расейскай уладзе) было не да Беларусі. Перакананы, пасля гэтага ў Беларусі непазбежна пачнуцца дэмакратычныя пераўтварэнні.

Не - "рускаму свету"! Жыве Беларусь!

***Міхась Варанец,***
*ветэран баявых дзеянняў на тэрыторыі Афганістана ў складзе Савецкай Арміі, г. Слонім.*

***Навіны Германіі***

# Вынікі старшынства Германіі ў Радзе ЕС: "Зробім Еўропу мацней. Разам"

Старшынства Германіі ў Радзе ЕС праходзіла пад знакам барацьбы з пандэміяй каронавіруса. Аднак ЕС дасягнуў вырашальнага пасоўвання і па іншых найважнейшых кірунках, прадэманстраваўшы салідарнасць краін-чальцоў паміж сабой і іх згуртаванасць у дзеяннях, накіраваных за межы Саюза.

**Барацьба з пандэміяй COVID-19**

ЕС згуртавана дзейнічае ў барацьбе супраць COVID-19: у тым ліку дзякуючы шматлікім еўрапейскім навукоўцам і еўрапейскім даследаванням у рэкордныя тэрміны была распрацавана вакцына, ажыццёўлены яе закупы і дастаўка. Хуткім часам у ЕС пачнецца вакцынацыя супраць каронавіруса. Ва ўсіх грамадзян ЕС у агляднай будучыні будзе магчымасць атрымаць прышчэпку, што стане вырашальным крокам па пераадоленні пандэміі.

**Доўгатэрміновы бюджэт і фонд аднаўлення "Next Generation EU"**

Пасля доўгіх перамоў і на аснове прапановы Германіі і Францыі ЕС дасягнуў дамоўленасці па пакеце, які складаецца з так званага доўгатэрміновага фінансавага плану, г.зн. бюджэту, разлічанага на некалькі гадоў, і фонду аднаўлення, заклікаанага зноў зрабіць Еўропу моцнай пасля пандэміі каронавіруса. Фонд аднаўлення "Next Generation EU" налічвае 750 мільярдаў еўра і ўяўляе сабою новы механізм, прызначаны для хуткага аказання дапамогі грамадзянам ЕС. Ён разлічаны першым чынам на краіны, асабліва пацярпелыя ад наступстваў пандэміі. Акрамя таго, прыняты доўгатэрміновы бюджэт на найбліжэйшыя сем гадоў у памеры 1,07 трыльёна еўра. Адмысловая ўвага ў ім было нададзена павелічэнню асігнаванняў на ахову здароўя, абарону клімату, укараненне лічбавых тэхналогій і моладзевы абмен.

**Умацаванне прынцыпу вяршэнства права**

Вяршэнства права - гэта аснова супольнасці каштоўнасцяў, якім з'яўляецца ЕС, які абараняе свабоды і правы грамадзян. Таму ў перыяд свайго старшынства Германія ініцыявала ў Радзе ЕС новы дыялог паміж краінамі-чальцамі на тэму вяршэнства права. Яго мэта - умацаваць агульнае разуменне прынцыпу вяршэнства права ў ЕС пасродкам адкрытага абмену.

**Еўрапейскі суверэнітэт**

Германія выступае за ўмацаванне дзеяздольнасці і вырашальнага ўплыву ЕС у такіх сферах, як бяспека, тэхналогіі і лічбавізацыя, гандлёвая і валютная палітыка. ЕС канцэнтруе свае высілкі і менавіта на вонкавым вектары дзейнічае разам, таму што ва ўмовах канкурэнцыі буйных дзяржаў асобныя нацыянальныя дзяржавы ўжо не ў стане вызначальным чынам уплываць на глабальны светалад. У вобласці палітыкі бяспекі Германія ў перыяд свайго старшынства ў Радзе ЕС прапанавала ўсталяваць свайго роду "стратэгічны компас": краіны-чальцы ЕС на падставе аналізу пагроз ажыццяўляюць мэтанакіраваны абмен па пытаннях бяспекі і абароны і вызначаюць агульны кірунак дзеянняў.

**ЕС - лідар у вобласці абароны клімату**

Еўропа захоўвае свае перадавыя пазіцыі ў тым ліку ў вобласці абароны клімату: да 2030 года ЕС плануе скараціць свае выкіды $CO_2$ на 55%, а да 2050 года мы намерваемся зрабіць Еўропу першым кантынентам з нулявым узроўнем эмісій у атмасферу, што наносяць шкоду клімату. Падчас свайго старшынства ў Радзе ЕС Германія паспяхова дамаглася замацаванні гэтых мэтаў у рамках еўрапейскага Закона пра клімат.

**За правы чалавека і рашэнне канфліктаў**

ЕС стварыў новы палітычны механізм для барацьбы супраць такіх найсур'ёзных парушэнняў праў чалавека, як катаванні, рабства ці сістэматычны сэксуальны гвалт: пры дапамозе рэжыму санкцый за парушэнні праў чалавека ЕС зараз можа ўводзіць забароны на ўезд супраць фізічных асоб ці замарожваць іх актывы. У коле краін-чальцоў ЕС Германія займала асабліва актыўную пазіцыю па пытанні прыняцця дадзенага механізму.



**Глабальнае партнёрства і тройка краін-старшыняў**

Мультылатэралізм, дэмакратыя, адкрыты гандаль як агульны компас - ЕС умацоўвае свае сувязі з важнымі рэгіёнамі. Стратэгічнае партнёрства злучае сёння ЕС і краіны паўднёва-усходняй Азіі, якія ўваходзяць у АСЕАН. Германія нарошчвае сваю дзейнасць у Інда-Ціхаакіянскім рэгіёне, Лацінскай Амерыцы і ў Карыбскім басейне. Сумесныя мэты: абарона клімату, біяразнастайнасць, устойлівае гаспадаранне, лічбавізацыя, якая кіруецца агульнымі каштоўнасцямі. У адрас ЗША ЕС выступіў з новай прапановай, мэты якога - "New Deal" з урадам Джо Байдена, умацаванне глабальнага парадку, які засноўваецца на правілах, і аднаўленне трансатлантычнага партнёрства.

**Партугалія і Славенія - партнёры па тройцы краін-старшыняў**

Пераемнасць асабліва важная тады, калі перад ЕС стаяць маштабныя задачы. Незалежна ад таго, якая краіна займае пост старшыні ў Радзе ЕС: палітычны пошук рашэнняў па такіх важных тэмах, як вяршэнства права, міграцыя ці абарона клімату, павінен працягвацца бесперапынна. Не ўсе рэформы можна завяршыць у шасцімесячны тэрмін. Таму на працягу 18 месяцаў Германія падтрымлівае і будзе падтрымліваць асабліва цеснае супрацоўніцтва з Партугаліяй і Славеніяй, якія зоймуць пост старшыні ў Радзе ЕС пасля Германіі.

***Паводле СМІ.***





*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Леанід Лаўрэш

# Надзеі і расчараванні протаіерэя Антона Сасноўскага

Антон Сасноўскі ў лістападзе 1822 г. быў прызначаны віца-старшынём Берасцейскай кансісторыі. У тым жа 1822 г. урад выдаў пастанову аб выкананні папярэдніх загадаў па ўзмацненні нагляду за побытам і ладам жыцця манахаў, аб закрыцці манастыроў, аб недапушчэнні ў базыльянскі ордэн рыма-каталікоў і г. д.

У 1822 г. з навуковай камандзіроўкі ў Еўропу вярнуўся прафесар Міхал Баброўскі, які сярод іншага даследаваў і сучасны стан грэка-каталіцкіх цэркваў у Еўропе і заўважыў іх добрае становішча: адукаваныя святары, народныя школы, выкананне ўсходніх абрадаў. Сустрэчу прафесара ў Кляшчэлях апісаў Плацыд Янкоўскі:

*"У 1822 годзе, падчас вакацый, мой бацька, адпраўляючыся на храмавае свята ў м. Кляшчэлі, пагадзіўся ўзяць мяне з сабою. Я не памятаў сябе ад радасці. Не таму толькі, што ў гэты дзень у м. Кляшчэлі быў вялікі збор народа, прываблenага ўрачыстым набажэнствам і стройным спевам шматлікай тамтэйшых школы; і не таму нават, што Кляшчэльскі сад па сваёй прасторы і навуковым даглядзе мясцовым парахам* (Сасноўскім - *Л. Л.*) *па справядлівасці лічыўся першым і, пэўна, адзіным у цэлай епархіі, бо ў ім, акрамя выдатных гатункаў пладовых дрэў, знаходзіліся і вінаград, і персікі, і абрыкосы. ... У запрашальным лісце, ... ад Кляшчэльскага протаіерэя, было сказана, што ён чакае ... госця, нашага знакамітага вандроўніка, які вярнуўся нарэшце з-за мяжы і сваім прыездам ашчаслівіў радзіму ...*

*- Хто ён, татачка, - спытаў я, - гэты ваяжор, і як яго клічуць?*

*- Прафесар Баброўскі.*

*- Пэўна, такі ж вучоны прафесар, як і наш айцец, які сустракаў лацінскаю гаворкай князя-апекуна?*

*- Вось знайшоў параўнанне! Куды ж вашай вучэльні, хоць яна і на ступені гімназіі - да ўніверсітэта! А гэта прафесар універсітэта!*

*- Няўжо ж накшталт нашага айца-прэфекта?*

*- Куды ты са сваім айцом-прэфектам! Прафесар універсітэта, кажуць табе!*

*- Значыць, татачка, ён падобны да нашага айца-рэктара? Далей гэтай прыступкі я не заходзіў нават ва ўяўленні. Наш рэктар з'яўляўся толькі аднойчы на год, падчас публічнага іспыту: заязджаў у горад няйначай, як у карэце ... і ў дзень яго імянін ніколі не было ўрокаў.*

*... праз некалькі хвілін да ганка пад'ехаў бедны воз, запрэжаны параю худых коней, якія, відавочна, яшчэ ўчора працавалі ў полі.*

*... царква даўно ўжо не ўмяшчала багамольцаў ... Гэтым разам прапаведнік прыцягнуў агульную ўвагу сваім выглядам. Ён з'явіўся ў нябачаных дагэтуль у тутэйшых мясцінах атрыбутах доктара багаслоўя, г. з. у аксамітным пунсовым, абрамленым залатым галуном і махрамі, так званым муцэце і ў такім жа чатырохвугольным барэце".*

У 1822 г. нават Баброўскі прапанаваў дзеля рэформы царквы звярнуцца да ўрада, але разумеў ён значна больш за іншых: *"Урад, як мы дакладна ведаем, гатовы дапамагчы і без сумнення дапаможа кліру, але для поспеху мы павінны адкласці ў бок нашы дробязныя сваркі, злучыць свае сілы і неаслабна клапаціцца пра адукацыю нашага кліра. Я аднак не прыхільнік скасавання галоўных базыльянскіх манастыроў, наадварот, стаю за іх захаванне: манаства ў царкве неабходна, без яго наш расцярушаны, прыгнечаны беднасцю клір, падобны трыснягу, які хістае вецер. Аднак, манастыры, неадпаведныя свайму прызначэнню ... могуць і павінны быць зачынены".* Гэтую думку пра клір, як хісткі трыснёг праз шмат гадоў Міхал Баброўскі яшчэ раз паўторыць ў пісьме да Віктара Басяцкага.

Антон Сасноўскі быў прызначаны на пасаду віца-афіцыяла кансісторыі і ў лістападзе 1822 г. выехаў з Кляшчэлёў у Жыровічы. На пасадзе віца-афіцыяла кансісторыі святар шмат займаецца гісторыяй уніяцкай царквы. З мэтай барацьбы з базыльянамі ён збірае і аналізуе старыя царкоўныя дакументы. *"Атрымаў многа новых актаў, якія шмат што тлумачаць. ... хачу скласці, ці лепей законную гісторыю нашай царквы. Некаторыя акты перадам у капітул для захавання",* - пісаў ён архіпрасвітару Янкоўскаму 28 лістапада 1824 г.

Пры канцы 1825 г. Антон Сасноўскі прызначаны афіцыялам Віленскай мітрапалічай кансісторыі. Кватэра, у якой ён павінен пасяліцца, была здадзена на палову года ў арэнду, і таму Сасноўскі часова жыў у свайго сына Платона. *"Я патрапіў сюды ў дурны час, і мяне чакаюць вялікія цяжкасці, паўсюдна бязладдзе і праблемы",* - пісаў ён. У іншым пісьме ад 12 снежня 1825 г. ён адзначыў: *"Як і ў Берасцейскай епархіі гэтак і тут, мяне цікавіць бездапаможнае становішча нашага кліру. ... зараз спадзяванні на ордэн паменшыліся, аднак са мною ваююць віленскія базыльяне і давялі мяне да таго, што я павінен шукаць падтрымкі не толькі ў калегіі, але і ў самога міністра".*

Яшчэ ў верасні 1824 г. А. Сасноўскі напісаў праект "Аб сродках паляпшэння асветы ўніяцкага духавенства". На пачатку праекта аўтар кажа пра недастатковую адукацыю белага і чорнага духавенства, да таго ж сярод белага духавенства, акрамя недахопу адукацыі, пануе галеча. Базыльянскі ордэн у дрэнным стане: у яго дрэнная сістэма адукацыі, дрэннае кіраванне і выкарыстанне фундушоў. Сярод святароў шмат людзей без адукацыі, бедных, не маючых, акрамя святарства, іншых крыніц для жыцця. Потым ён піша пра неабходнасць рэформы ордэна базыльянаў і пра захоп імі царкоўных фундушоў. Паказвае, што ў 1626 г. на Кобрынскім саборы было вырашана адчыніць семінарыю для белага духавенства - пастанова сабора зацверджана Рымскім папам і ў 1629 г. адчынілася семінарыя ў Менску, аднак яна доўга не праіснавала. Акрамя таго, яшчэ раней, з моладзі якую рыхтавалі ў святары, было вырашана адпраўляць выбраных юнакоў вучыцца ў алюмінат Гратса, а з 1607 г. у семінарыю пры Кангрэгацыі евангелізацыі ў Рыме. Да 1744 г. на вучобу ў Рым накіроўвалі разам студэнтаў з белага і чорнага духавенства. Меліся алюмінаты ў Львове, Перамышлі і Уладзіміры. Згодна з булай папы Бенядзікта XIV ад 5 красавіка 1753 г. быў створаны Віленскі алюмінат з назвай "Commendabissimum studium" для 16 уніяцкіх клірыкаў, 4 месцы пакідаліся для базыльянаў. Потым з'явіліся семінарыі ў Свержані, Лаўрышаве і Полацку.

У другой частцы тэксту аўтар пераходзіць да разгляду прычын беднасці духавенства. Ён лічыць, што паправіць сітуацыю можа толькі ўрад - націсүўшы на базыльянаў, забраць у іх фундушы і закрыць частку манастыроў, адчыніўшы пры гэтым новую семінарыю ў Жыровічах. Свой праект Сасноўскі накіраваў архіпрасвітару Янкоўскаму, і ў 1825 г. гэты праект патрапіў ва ўладныя сферы Пецярбурга (у 1840 г. святар перадаў свой праект на захаванне сыну архіпрасвітара Плацыду Янкоўскаму, які ў той час быў на пасадзе віца-старшыні Літоўскай кансісторыі, праз яго запіска была надрукавана).

Прызначаны ў 1824 г. міністр народнай асветы Шышкоў рашуча выступіў супраць базыльянаў, абвінавацўшы ў іх падтрымцы нават Навасільцава.

Пасля смерці цара Аляксандра I Берасцейскі капітул меў вялікія надзеі на новага цара Мікалая I. Для вырашэння праблем паміж базыльянамі і Берасцейскім капітулам у 1826 г. у Жыровічах была склікана так званая "Вялікая кансульта", дамовіцца аднак не ўдалося.

9 кастрычніка 1827 г. выйшаў указ Мікалая I, цар загадаў: *"... дапускаць да манаскіх зарокаў асоб, знаёмых з славянскай моваі і грэчаскім богаслужэннем і не інакш, як з асяродка грэка-ўніяцкага духавенства, ... заснаваць вучылішча для грэка-ўніяцкай моладзі духоўнага звання...".*

Для выканання царскага загаду міністр Шышкоў падрыхтаваў план дзеянняў, які быў зацверджаны царом 28 красавіка 1828 г. План прадугледжваў аб'яднаць чатыры ўніяцкія епархіі ў дзве - Літоўскую і Беларускую. У склад першай увайшлі былыя Віленская і Берасцейская з 800 цэрквамі з епіскапам у Жыровічах, Віленская кансісторыя скасоўвалася. Прадугледжвалася адкрыццё ўніяцкай акадэміі ў Полацку пад кіраўніцтвам Міхала Баброўскага.

Трэба сказаць, што яшчэ ў 1827 г. па прапанове расійскага ўрада Іосіф Сямашка падрыхтаваў праект ліквідацыі грэка-каталіцкай царквы, 17 студзеня 1828 г. ён прадставіў новы дакумент, у якім прапанаваў канкрэтны план мерапрыемстваў, і яго план быў прыняты ўрадам.

Пасля скасавання Віленскай кансісторыі Сасноўскі яшчэ нейкі час заставаўся ў Вільні ў якасці параха Свята-Мікалаеўскай царквы і члена савета Галоўнай духоўнай семінарыі. Але на пачатку снежня, атрымаўшы чын старшага саборнага протаіерэя і пажыццёвую пенсію ў 150 руб. (царскім указам ад 24 красавіка 1829 г.), ён вярнуўся ў свой Кляшчэльскі прыход. Зрабіў сваю справу і стаў непатрэбным.

На гістарычную арэну выходзілі асобы, гатовыя да ліквідацыі сваёй царквы, але большасць святароў гэтага яшчэ не разумела. У 1830 г. прафесар Баброўскі пісаў Антону Сасноўскаму: *"Быў у Жыровічах падчас вакацый і жадаў даведацца, да чаго вядуць перамены ў нашай епархіі: але цяжка разгадаць чужыя думкі. Шмат таямнічага. Па словах епіскапа Сямашкі, усё робіцца для дабра кліру і ўзмацнення уніі і ўсё гэта ўзгоднена з урадам".*

Смерць епіскапаў Андрыяна Галаўні і Якуба Мартусевіча, якія стрымлівалі дэструктыўную дзейнасць групы Сямашкі, развязала ім рукі, тым больш, што вакантныя месцы епіскапаў занялі Васіль Лужынскі і Антон Зубко. У 1833 г. Іосіф Сямашка стаў Літоўскім епархіяльным грэка-каталіцкім епіскапам, застаючыся пры гэтым членам грэка-ўніяцкай калегіі. У гэтай якасці ён зрабіў рашучыя крокі па ўвядзенні ў грэка-каталіцкай царкве праваслаўных традыцый - у цэрквах узводзіліся іканастасы, набажэнствы пачалі праводзіць па служэбніках маскоўскага друку, з храмаў прыбіраліся арганы. У 1835 г. Іосіф Сямашка быў прызначаны членам адмысловага сакрэтнага камітэта па ўніяцкіх справах. Да 1837 г. пад націскам епіскапа значная колькасць грэка-каталіцкіх святароў пісьмова пацвердзіла сваю гатоўнасць далучыцца да праваслаўя. У тым жа годзе грэка-каталіцкая царква была падпарадкавана обер-пракурору Свяцейшага Сінода. У 1838 г. памерлі яшчэ два ўніяцкія архірэі, якія выступалі супраць скасавання сваёй царквы - старшыня грэка-каталіцкай калегіі мітрапаліт Язафат Булгак і епіскап Іосіф Жарскі. 2 сакавіка 1838 г. старшынём калегіі стаў Іосіф Сямашка.

Смерць мітрапаліта Язафата Булгака канчаткова развязала рукі авантурнікам. Прафесар Міхал Баброўскі 21 сакавіка 1838 г. з Шарашова пісаў Антону Сасноўскаму: *"Ужо апошні час прабіў для уніі. Апошні ў Літве ўніяцкі мітрапаліт Язафат Булгак з-за гарачкі адышоў у вечнасць 23 лютага ў 3 гадзіны дня. Пахаванне адбылося ў сталіцы, у прысутнасці генерал-губернатара князя Даўгарукава, курскага губернатара Мураўёва, сенатара графа Мардвінава, обер-пракурора свяцейшага сінода графа Пратасава і іншых заслужаных асоб. Па наказу Гасудара прах яго ... вікарным епіскапам Полацкім Лужынскім прывезены ў Сергіеўскі манастыр, які знаходзіцца за 20 вёрст на шляху з Пецярбурга ў Пецяргоф. Каля манастыра хаўтуры сустрэлі 2 мітрапаліты і 2 архіепіскапы са шматлікім праваслаўным святарствам. ... епіскап І. Сямашка прызначаны старшынём у грэка-ўніяцкай духоўнай калегіі, а епіскап Лужынскі засядацелем, яму ж даручана кіраўніцтва Полацкай епархіяй і маёнткамі епархіі. Такім чынам у Полацку ўжо не будзе свайго архіепіскапа і адсюль зразумела, што новы грэка-ўніяцкі мітрапаліт больш не будзе прызначаны. Вікарнаму Літоўскаму епіскапу Зубко манархам абяцана выдаць поўнае епіскапскае аблачэнне. Хутка трэба чакаць царскага маніфеста аб далучэнні ўніятаў да пануючага ў Расіі веравызнання. Ужо дадзены тры ўказы а. Панькоўскаму, каб паспяшаў у Пецярбург заняць пасаду засядацеля ўніяцкай калегіі, якая будзе існаваць для выканання плана 1828 г. па рэфармаванні ўніятаў і пераўтварэнні іх ў праваслаўных. Аб згодзе на далучэнне далі падпіскі некаторыя з найбольш значных чыноўнікаў, напрыклад афіцыял Тупальскі два гады таму, а іншыя, напрыклад члены кансісторыі, год таму. Дэканы ў жніўні 1837 г. выкліkаліся па-адным да епіскапа Сямашкі ці падчас рэвізіі Галубовічам Каменецкага і Берасцейскага дэканатаў: Будзіловіч - Берэсцейскі дэкан, Крукоўскі - Каменецкі дэкан, Пацоўскі - Царкоўніцкі парах і яго сын, Высоцкі парах. Тое самае зрабілі і віца-дэканы. Дэканам абяцана ўзнагарода - грошы, іншым протаіерэйства з ганаровым высвячэннем у Жыровіцкім саборы. Ім дадзена сакрэтная інструкцыя рыхтаваць сваіх падначаленых таксама даць падпіскі, і зараз яны гэта робяць. З базыльянскага ордэна прызначаны ігуменамі тыя, якія далі падпіскі ... : Марціноўскі ў Супраслі, Вішынскі ў Жыровічах, Дзюбінскі ў Загор'е, Ардановіч у Барунах (неразборліва). Інспектарам духоўных вучылішчаў Желязоўскаму ў Жыровічах і Якульскаму ў Мельцы дадзены грамаматы на ігуменаў. Вось і канец уніі. Гэтую сумную катастрофу прадказвалі восенню мінулага года землятрусы на Валыні і ў Падоле. Смерць ад халеры, суровая зімы, паўсюдны неўраджай - відавочныя бізуны, пасланыя Богам за адступніцтва ад веры нашых продкаў. Але барані нас Бог ад чаго-небудзь горшага!".*

Сасноўскі разам з іншымі ўплывовымі святарамі не мог ухваліць гэтых сакрэтных мерапрыемстваў. Па яго перакананнях, справа рэлігіі - справа сумлення, яна не можа быць тэмай для абмеркавання. Вырваныя праз абяцанні ўзнагарод і падвышэння па службе сакрэтныя святарскія падпіскі аб пераходзе ў праваслаўе не ўсхваляліся аўтарытэтнымі духоўнымі асобамі ў царкве, а шараговыя святары якраз і чакалі, як будуць паводзіць сябе аўтарытэтныя, усім вядомыя святары, да якіх належаў і Антон Сасноўскі.

Пачаўшы прымушаць святароў даваць сакрэтныя распіскі, Сямашка адразу сутыкнуўся з супраціўам. Пры аб'ездзе ім сваёй Літоўскай епархіі на падпіску згадзіліся толькі некалькі святароў - членаў Жыровіцкага праправаслаўнага гуртка - Тупальскі, Іпаліт Гамаліцкі, Галубовіч, Малішэўскі і Гарбацэвіч. Усе яны займалі добрыя пасады ў кансісторыі і семінарыі, потым да іх далучыўся Васіль Маркевіч. У Беларускай епархіі падпіску далі толькі пяць чалавек. Аднак і тыя, хто даў падпіску, абяцалі далучыцца да праваслаўя з умовай і толькі тады, *"калі вярхоўнае грэка-ўніяцкае кіраўніцтва, якому па словах св. пісання трэба падпарадкоўвацца, ... далучыцца да праваслаўнай царквы, ... але пры тым жадаю застацца без барады і ў адзенні, якое носіць грэка-ўніяцкае святарства"* (падпіска засядацеля Літоўскай кансісторыі, магістра Гарбацэвіча).

Сямашка быў у Кляшчэлях 4 ліпеня 1837 г.: *"Быў на службе ў Сасноўскага ...",* слухаў пеўчых і аглядаў царкву. Протаіерэй А. Сасноўскі жыў у Беластоцкай акрузе, далучанай да Расіі ў 1807 г. на асобых умовах якія павінны былі гарантаваць вернікам, у тым ліку і недатыкальнасць грэка-каталіцкай царквы. Таму ён не лічыў сябе абавязаным падпарадкоўвацца загадам Сямашкі. У 1838 г. святар меў ужо 63 гады і жадаў памерці ўніятам. У сваёй акрузе ён карыстаўся вялікімі аўтарытэтам і меў моцны ўплыў на людзей. Сасноўскі з іншымі святарамі вырашылі дзейнічаць разам з холмскімі ўніятамі (знаходзілася ў царстве Польскім), яны адчувалі гістарычную повязь свайго краю з Холмшчынай і Галіцыяй.

Улетку 1838 г. Сямашка другі раз наведаў аўтарытэтнага святара ў Кляшчэлях. У царкве Сасноўскі зрабіў прамову на старaславянскай мове, епіскап жа адказаў некалькімі словамі, на мяшанцы з старaславянскіх і рускіх слоў. Сямашка прабыў тут тры дні, але Сасноўскі маўчаў, і епіскап даручыў дэкану ціснуць на яго, а сам выехаў у Гародню.

Пасля гэтага да Сасноўскага па параду прыходзіла каля 50 святароў. На пытанні "што рабіць?" яны атрымлівалі заўжды адзін і той жа адказ: "Кожны павінен дзейнічаць згодна са сваім сумленнем". Хутка а. Антон будзе абвінавачаны ў агітацыі. У вачах уладаў віна Сасноўскага была большай за віну іншых святароў, ён не толькі сам адмаўляўся даць падпіску аб далучэнні да праваслаўнай царквы, але лічыўся яшчэ і падбухторшчыкам.

*Леанід Лаўрэш*

# Надзеі і расчараванні протаіерэя Антона Сасноўскага

25 жніўня 1838 г. Сямашка выклікае ў Жыровічы протаіерэя Кляшчэльскай царквы, каб афіцыйна даведацца пра яго добранадзейнасць: *"Да мяне даходзяць весткі, што настаяцель Кляшчэльскай царквы протаіерэй Сасноўскі ўзбуджае некаторых неспрактыкаваных святароў да непадпарадкавання мясцоваму дабрачыннаму і епархіяльнаму кіраўніцтву. Таму прапаную кансісторыі выклікаць яго, Сасноўскага, у Жыровічы для належных тлумачэнняў па гэтай справе, ... прадставіць мне сваё меркаванне аб добранадзейнасці ці нядобранадзейнасці гэтага протаіерэя. Да майго наступнага распараджэння ... даручыць Кляшчэльскі прыход ў часовае кіраванне святару Пухлаўскай царквы Пятру Малашэўскаму".*



*Саборны протаіерэй Антон Сасноўскі*

Тады Сасноўскі разам з іншымі святарамі піша ліст да імператара, у якім тлумачыць сваю пазіцыю. Абяцанкі і пагрозы не дзейнічаюць, наадварот Сасноўскі пачынае заклікаць сваіх парафіян не хадзіць у царкву да святара, які далучыўся да праваслаўя. Сасноўскага пачынаюць абвінавачваць у палітычных злачынствах, што ва ўмовах мікалаеўскай Расіі было надзвычай небяспечна. 27 кастрычніка 1838 г. Сямашка піша обер-пракурору Свяцейшага Сінода графу Пратасаву *"аб нядобранадзейных святарах Беластоцкай вобласці, якія адмаўляюцца па ўнушэнні ... протаіерэя Сасноўскага. ... 14 святароў Беластоцкай вобласці, якія пісьмова, на пачатку перад дабрачынным, а потым перад кансісторыяй выявілі варожыя пачуцці да ўласнай Грэка-усходняй царквы ... . Яны спасылаюцца на пададзенае Гасудару Імператару прашэнне, аспрэчваюць усялякія ўнушэнні і застаюцца непахіснымі ва ўпартасці. ... я адхіліў ад прыходаў тых, ... якія ўзбуджалі і кіравалі іншымі ..., а менавіта протаіерэя Сасноўскага, ... абодвух Казьмінскіх, святароў Карнінскай царквы, Імшэнніка, святара Грынявіцкай царквы, Высякерскага, святара Боцькаўскай царквы, а таксама падаўшых прашэнне ... Гаворскага і Панькоўскага. ... між тым ... падвергнуты забароне протаіерэй Сасноўскі да гэтага часу не прыбыў у Жыровіцы ... Ён у царкве перад Кляшчэльскімі прыхаджанамі аспрэчваў вучэнне Грэка-расійскай царквы (праваслаўнай - Л.Л.), ён жа, Сасноўскі, унушаў прыхаджанам не хадзіць у царкву да святара, прызначанага на яго месца. Адхілены ад Бярозаўскага прыхода святар Антоні Панькоўскі пры перадачы прыхода прызначанаму на яго месца святару ўнушаў прыхаджанам не дапусціць яго да службы ў царкве.*

*Прымаючы пад увагу, што гэтыя ўчынкі протаіерэя Сасноўскага і святара Панькоўскага могуць прывесці да інцыдэнтаў сярод Грэка-ўніяцкага народа і заахвочваюць да зацятасці іншых нядобранадзейных святароў, якія чакаюць ... спрыяльнага вырашэння па справе пададзенага імі прашэння да Гасудара Імператара, пакорна прашу ... каб Сасноўскі і Панькоўскі былі неадкладна высланы мясцовым цывільным начальствам ... у вялікарускія губерні. ... Сасноўскі вядомы сваёй палітычнай нядобранадзейнасцю ў 1812 г.".*

Праз месяц пасля ліста да цара, не атрымаўшы адказу, святары пішуць аналагічны ліст да шэфа корпуса жандараў Бекендорфа і праз яго яшчэ раз звяртаюцца да цара, святары тлумачаць, што не могуць змяніць веру, бо прысягалі каталіцкай царкве. Прашэнне заканчвалася словамі Сасноўскага: *"Заклікаю суд божы і манарха, ці справядліва я пакараны маім духоўным начальствам".*

Цар адмоўна паставіўся на ліста святароў Беластоцкай вобласці і загадаў выслаць нязгодных. 6 лістапада Сямашка піша ў Кансісторыю: *"Пасля таго як ... Яго Імператарскай вялікасці былі пададзены весткі аб нядобранадзейных учынках былых святароў, Кляшчэльскай царквы протаіерэя Сасноўскага і Бярозаўскай царквы Панькоўскага, Гасудар Імператар 1-га лістапада гэтага года ... загадаў ... гэтых святароў выслаць у розныя гарады Кастрамской губерні пад нагляд мясцовага начальства ...".* Такім чынам, адказам на ліст, у якім звярталася ўвага на неабходнасць уладаў выконваць свае ж, нават міжнародныя, абяцанні, быў загад цара, у якім ініцыятары ліста названы інтрыганамі, а святары, якія падпісалі ліст, былі пакараны.

15 лістапада 1838 г. Сямашка звяртаецца да Віленскага вайсковага губернатара князя Даўгарукага, каб той зрабіў *"унушэнне начальству Беластоцкай вобласці ... дзеля высылкі нядобранадзейных святароў і ўціхамірвання прыхаджан".* Пра арышт бацькі ўспамінаў малодшы сын Антон Сасноўскі: *"Я тады быў у 5-тым класе гімназіі. Аднойчы нечакана да маёй кватэры пад'ехала павозка, на якой я пабачыў сваіх бацькоў і ... жаўнера з ружжом, да якога быў прымкнуты багнет. За імі прыскакаў прыстаў 1-га стану Бельскага павета Магнус. Бацька і маці ўвайшлі ў маю кватэру пад наглядам канвойнага, а прыстаў пайшоў да кіраўніка вобласці генерала Гунаропала. Праз 10 хвілін Гунаропала даслаў па майго бацьку экіпаж, і бацька разам з Магнусам паехаў да кіраўніка вобласці. Пасля вяртання, бацька сказаў маці і мне, што ён будзе жыць у Беластоку пад хатнім арыштам ...".*

Пасля таго як протаіерэя Антона Сасноўскага ў лістападзе 1838 г. пад канвоем прывезлі ў Беласток, прайшло некалькі месяцаў, пакуль епархіяльнае начальства непасрэдна не распарадзілася выслаць яго паслушнікам у Кастрамскі манастыр. Стары Сасноўскі пакутаваў на астму, хвароба знясільвала яго, і таму ўпарты святар дабіўся медыцынскага агляду. Доктар падпісаў пастанову пра немагчымасць ехаць у далёкі шлях, пакуль ён не паздаравее, і генерал Ганарапула сваёй воляй пакінуў протаіерэя ў Беластоку. Святар звярнуўся і да обер-пракурора Сінода.

Тым не менш, Сасноўскі пачаў збірацца ў далёкі шлях. Ён напісаў ліст да генерала Ганарапула з падзякай і тастамантам - протаіерэй патлумачыў генералу, што з-за стану здароўя, старасці, *"духоўнага ўціску"*, далёкасці шляху і змены клімату, ён не спадзяецца вярнуцца на радзіму. *"Жонку і дзяцей я пакідаю ў беднасці. Мой бацька не меў ні братоў, ні сясцёр, і я ў свайго бацькі адзіны сын. Няма блізкіх родных не толькі ў мяне, але і ў жонкі, якая родам з Валыні, пакідаю ўсіх сіротамі. Мая і іх надзея на аднаго Бога ўсёмагутнага і на ваша чалавекалюбнае сэрца".* Тым часам цар асабіста загадаў *"пакінуць Сасноўскага па-ранейшаму на месцы".*

10 сакавіка 1839 г. Сямашка паведаміў графу Пратасаву, што сярод іншых падпіску пра далучэнне да праваслаўнай царквы даў і *"старшы саборны протаіерэй Антоній Сасноўскі".* Зразумела, што стары святар менавіта таму і не быў сасланы ў Кастраму. Звяртае ўвагу, што першы раз за доўгі час Сямашка ў дакуменце назваў поўны святарскіх чын Сасноўскага.

Сын, Антон Антонавіч Сасноўскі успамінаў: *"Мой бацька вярнуўся ў Кляшчэлі 28 чэрвеня 1839 г. і пасяліўся ва ўласным доміку ў садзе, але без усялякіх сродкаў, бо духоўнае кіраўніцтва палічыла загад цара "паранейшаму", як адхіленне ад парафіі з дазволам жыць у Кляшчэлях".* У царкве замест Сасноўскага быў пастаўлены святар Лапушынскі. Ён меў поўную падтрымку праваслаўнай іерархіі - яму было дазволена кіраваць, не звяртаючы ўвагу нават на дабрачыннага Кастыцэвіча.

Бельскі віца-дабрачынны Лапушынскі служыў у багатым Кляшчэльскім прыходзе і хацеў саслаць старога святара ў свой былы бедны прыход горада Нарва. Маючы ўсе паўнамоцтвы ад духоўных уладаў, ён рабіў усе, каб адпомсціць хвораму старому і не даць яму жыць спакойна.

3 жніўня 1839 г. Лапушынскі даслаў данос у кансісторыю, у якім паведамляў, што Сасноўскі пасля прыезду з Беластока, будучы абсалютна здаровым, яшчэ ні разу не быў на царкоўнай службе, а яго сям'я наведвае касцёл. Кансісторыя запатрабавала ад старога святара тлумачэння. 27 жніўня а. Антон адказаў, што ён усё яшчэ хворы, а новы святар бачыў яго толькі здалёк і таму не мог ведаць стан яго здароўя. Пра царкву: *"Прыходзіць у царкву, дзе я 38 гадоў быў парахам, мне цяжка: дастаткова, каб убачыўшы святара заплакала нейкая жанчына, і са мной здарыцца прыпадак. Але можа быць і яшчэ больш дрэнна - у маёй прысутнасці народ можа выказаць абурэнне супраць новага віца-дабрачыннага, і тады мяне абвінавацяць у падбухторванні да бунту. Таму я не лічу магчымым наведваць не толькі царкву, але і вернікаў у мястэчку і вёсках. Я толькі два разы выходзіў з дому: у першы раз 15 хвілін быў у станавога прыстава, каб напісаць скаргу на слугу віца-дабрачыннага, які пабіў маю служанку, а другі раз у паштовую кантору, але гэтак, каб унікнуць лёсу маёй служанкі. ... Па прыватных чутках мне вядома, што віца-дабрачынны кантактуе са спраўнікам з г. Бельска і рыхтуе новыя абвінавачванні. Я павінен выправіць яшчэ адну памылку віца-дабрачыннага: ў ліпені я спавядаўся ў вікарнага святара Яна Дзем'янавіча і потым служыў літургію ў царкве св. Георгія. Дзем'яновіч пацвердзіць гэта.*

*Несправядлівы так сама паклёп віца-дабрачыннага на маю сям'ю, якая зараз складаецца з маёй жонкі і дачкі Веранікі. Яны бывалі ў царкве і на споведзі на Вялікдзень. Дачка Вераніка, праўда, калі-некалі бывае ў касцёле, бо лічыць, што маліцца можна і ў касцёле. Верагодна, так жа мяркуюць жонка і дачка віца-дабрачыннага, бо яны таксама наведваюць касцёл".*

Кансісторыя запыталася ў Бельскага дабрачыннага Кастыцэвіча і Беластоцкага дабрачыннага Маркевіча, ці не будзе спакусы святарству ад таго, што Сасноўскі застанецца ў Кляшчэлях? Кастыцэвіч даў станоўчы для старога святара адказ, а Маркевіч ў сваім лісце паказаў, што Сасноўскі, карыстаецца вялікай пашанай і ўплывам сярод духавенства, і таму яго нельга пакідаць у Кляшчэлях. Справа ўсё ж закончылася тым, што стары святар адмовіўся пераязджаць, і яго пакінулі ў родным мястэчку.

9 красавіка 1840 г. Сямашка памілаваў зломленага старога, вярнуўшы яму яго ж Кляшчэльскі прыход: *"Саборны протаіерэй Сасноўскі ўжо выказаў раскаянне ў непрыстойных яго сану дзеяннях, быў адпаведна пакараны і дастаткова засведчыў начальству сваю добранадзейнасць".*

Справа была зроблена, і можна было пачынаць ствараць міф пра "добраахвотнае далучэнне" грэка-каталіцкай царквы. 29 траўня 1841 г. Сямашка хадайнічае перад обер-пракурорам Пратасавым аб узнагароджанні трыццаці "духоўных саноўнікаў" бронзавым медалём у "памяць уз'яднання уніятаў з праваслаўнай царквой". Сярод узнагароджаных - саборны протаіерэй Антон Сасноўскі і саборны протаіерэй Міхал Баброўскі. Праз год гэтыя святары былі ўзнагароджаны аксамітнымі фіялетавымі камілаўкамі.

У 1847 г. а. Антон адаслаў у Пецярбург свае этнаграфічныя зборы, якія ён збіраў усё жыццё.

Маючы 77 гадоў, святар вырашыў выкараніць п'янства, якое да таго часу ўзмацнілася сярод прыхаджан. У шынках гарэлку пачалі прадаваць ў крэдыт, і многія з прыхаджан трапілі ў сапраўдную кабалу да шынкароў. Галоўным утрымальнікам шынкоў у той мясцовасці быў былы гарадскі галава Фама Санкевіч. Судовыя цяжбы падарвалі здароўе Антона Сасноўскага, і 3 сакавіка 1852 года ён памёр на руках свайго малодшага сына Антона, які быў гарадскім галавой і сярэдняга сына Канстанціна, камісара Гарадзенскага вайсковага шпіталя. Антон Сасноўскі пахаваны на Кляшчэльскіх могілках каля памёршай на некалькі гадоў раней яго жонкі.

6 красавіка 1852 г. Сямашка загадаў Драгічынскаму дабрачыннаму Бараноўскаму разам са святаром Кляшчэльскай царквы Ануфрыем Гагалеўскім пільна перагледзець паперы і кнігі памёршага, апячатаць і захоўваць іх да яго распараджэння, а таксама зрабіць спіс усіх дакументаў Сасноўскага і пераслаць яму.

У 1860 г. улады зноў мелі праблемы з Кляшчэльскімі прыхаджанамі - былымі ўніятамі, якія карыстаючыся блізкай мяжой "наведвалі касцёлы" (а, верагодна, усё ж уніяцкія цэрквы) ў Царстве Польскім. Паведамлялася пра 8 вернікаў "спакушаных" у рыма-каталіцтва ў сакавіку 1860 г. Ужо ў красавіку 1860 г. Сямашка даведаўся пра 292 "спакушаных" прыхаджан Кляшчэльскай царквы. У верасні святара Ануфрыя Гагалеўскага з Кляшчэльскай парафіі пераводзяць у другую царкву, новаму святару прадпісана, каб ён *"старайся вярнуць на верны шлях памыліўшыхся ... Кляшчэльскіх прыхаджан".* Тады ж у лісце да Віленскага вайсковага губернатара Назімава, Сямашка паведамляе, што галоўныя завадатары *"спакушэння"* адпраўлены ў манастыры: *"Калі ўгавораванні не дадуць вынікаў, тады спадзяюся, што ваша высокаправасхадзіцельства загадае ... паступіць згодна з законам, а. 295 тома XV Зводу Законаў ...".*

***На малюнку:*** *протаіерэй Антон Сасноўскі. Партрэт намаляваны ў 1826 г. трэцім сынам протаіерэя Панкратам - таленавітым мастаком, які вывучаў жывапіс у Віленскім універсітэце. Сасноўскі намаляваны ў адзенні ўніяцкага грэка-каталіцкага каноніка з двума крыжамі на шыі.*





# "Такі вядомы і такі просты..."

26 лістапада адзначалася 90 год з дня нараджэння Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча - цікавага і самабытнага беларускага пісьменніка, які змог стварыць высакаякасную гістарычную прозу. Ён аўтар вершаў і паэм, апавяданняў і аповесцей, раманаў і п'ес, эсэ і літаратурных артыкулаў, публіцыстыкі і нарысаў. Патрыятызм, рамантычнае светаўспрыманне, вольны палёт фантазіі, адчуванне глыбіні, шырыні і багацця народнага жыцця сталі вызначальнымі рысамі яго творчасці.

З нагоды 90-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча ў рэжыме відэаканферэнцыі адбыўся круглы стол "Быў. Ёсць. Буду" ў рамках штогадовых караткевічаўскіх чытанняў. Арганізатарамі круглага стала выступілі Цэнтр беларускай мовы і літаратуры інстытута філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, інстытут мовазнаўства імя А. Патэбні Нацыянальнай акадэміі навук Украіны і пасольства Рэспублікі Беларусь ва Украіне. У навуковай канферэнцыі ўдзельнічалі больш за трыццаць прадстаўнікоў Беларусі, Украіны і Польшчы, студэнты-беларусісты інстытута філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі. Сярод удзельнікаў відэаканферэнцыі быў і навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун. У анлайн-эфіры Алесь часткова зачытаў матэрыял, падрыхтаваны да круглага стала. Поўнасцю гэты матэрыял будзе змешчаны ў зборніку караткевічаўскіх чытанняў за 2020 год. Асобнымі вытрымкамі са сваёй даследчай працы Алесь Хітрун падзяліўся ў нашым інтэрв'ю.

***- Алесь, у тваім матэрыяле для навуковай канферэнцыі адзначаецца, што Караткевіч прыязджаў у Ліду. Калі і пры якіх абставінах гэта было?***

- Уладзімір Караткевіч прыязджаў у Ліду 9 лютага 1964 года. Сустрэча з ім, а таксама з некаторымі іншымі беларускімі пісьменнікамі адбылася ў рэдакцыі лідскай раённай газеты "Сцяг працы" *, якая размяшчалася па вуліцы Кірава, 24. Праз дзень пасля той сустрэчы ў газеце была змешчана нататка "У літаратурным аб'яднанні". У ёй гаварылася, што ў нядзелю ў рэдакцыі газеты "Сцяг працы" сабраліся маладыя літаратары Лідчыны на сход раённага літаб'яднання. У госці да мясцовых аўтараў прыйшлі беларускія творцы Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, а таксама журналіст, супрацоўнік "Сельской газеты" Якаў Міско. На жаль, падрабязна пра тое, што гаварыў Караткевіч падчас сустрэчы з маладымі лідскімі аўтарамі, у той невялікай нататцы не сказана. Але пацвярджаецца сам факт, што пісьменнік прыязджаў у Ліду.



***- Табою сабраны ўспаміны лідскіх паэтаў аб сустрэчах з Уладзімірам Караткевічам. Раскажы падрабязней, хто з паэтаў Лідчыны меў шчасце з ім сустрэцца і як гэта адбывалася.***

- Аб сустрэчах з Уладзімірам Караткевічам згадвалі Уладзімір Васько, Міхась Мельнік, ВасільВарошка, Віктар Бачароў. Так, Уладзімір Васько ў пачатку 60-х гадоў вучыўся ў Гарадзенскім педінстытуце. Ён успамінае, што ў той дзень, калі прыехалі беларускія пісьменнікі, студэнты з усіх факультэтаў і выкладчыкі сабраліся ў актавай зале. Уладзімір Караткевіч чытаў штосьці з прозы. Запрошаныя творцы з задавальненнем адказвалі на пытанні студэнтаў. Калі пісьменнікі спусціліся са сцэны, студэнты (у асноўным дзяўчаты) гістарычна-філалагічнага факультэта атачылі іх і не хацелі адпускаць, задавалі пытанні, цікавіліся іх жыццём, творчасцю. Пытанні задавалі ў асноўным Уладзіміру Караткевічу. На той імпрэзе прысутнічаў і Уладзімір Васько, але пытанняў Караткевічу не задаваў.

Міхась Мельнік у час працы ў Красноўскай сярэдняй школе паралельна з настаўніцкай дзейнасцю кіраваў літаратурным гуртком "Крынічка". Дзесьці ў сярэдзіне 70-х гадоў у школу прыйшло запрашэнне на літаратурную вечарыну. Сустрэча была арганізавана ў Старым замку ў Гародні. З лідскіх паэтаў тады, акрамя Міхася Мельніка, на ёй прысутнічалі Віктар Бачароў, Леанід Віннік, а таксама навучэнка Красноўскай школы Валянціна Шылкоўская (яе вершы неаднаразова друкаваліся ў раённай газеце "Уперад"). Акрамя Уладзіміра Караткевіча, з вядомых пісьменнікаў на мерапрыемстве былі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Данута Бічэль-Загнетава.

У "Гродзенскай праўдзе" за 22 сакавіка 1977 года быў змешчаны матэрыял "На смену молодость идет..." з фотаздымкам, на якім Уладзімір Караткевіч засняты сярод пачынаючых паэтаў і празаікаў Гарадзенскай вобласці. Сярод пачынаючых паэтаў на здымку - і малады лідскі паэт Васіль Варошка. Яго тады ад рэдакцыі газеты "Уперад" запрасілі прыняць удзел у семінары маладых паэтаў і празаікаў Гарадзеншчыны. У тым семінары ўдзельнічалі і лідскія паэты Уладзімір Васько, Пётр Макарэвіч, Міхась Мельнік, Віктар Бачароў, Леанід Віннік. Сустрэча адбылася ў Гарадзенскім абкаме камсамолу. Пасля семінара паэты сабраліся ў фае, і фотакарэспандэнт "Гродзенскай праўды" прапанаваў сфатаграфавацца на памяць разам з Уладзімірам Караткевічам. Усе прысутныя, сярод якіх быў і Васіль Варошка, акружылі пісьменніка.

Віктар Бачароў аб сустрэчы з Караткевічам згадвае ў празаічным творы "Фотаздымак, што застаўся толькі ў памяці", змешчаным у літаратурна-мастацкім часопісе "Ад лідскіх муроў" за 2001 год. Ён апісвае, верагодна, той самы семінар маладых паэтаў і празаікаў Гарадзеншчыны, хаця пазначае, што сустрэча адбылася ўжо ў 80-я гады. *"Да нас прыехаў Уладзімір Караткевіч,* - пісаў Віктар Бачароў. - *Такі вядомы і, як аказалася, такі просты чалавек з намі ў зале. І разам з яго прыходам зала напаўняецца жыццярадасным смехам, бадзёрымі жартамі. Яго ўсмешка дорыцца адразу ўсім прысутным. Ён абуджае да сябе ўсеагульную прыхільнасць, гіпнатызуе сваёй энергіяй, прыцягвае ўвагу. Пасля выступлення Уладзімір Караткевіч запрашае ўсіх, хто будзе ў Менску, заходзіць у госці. Я карыстаюся момантам і прашу адрас пісьменніка. І ён размашыста чыркае яго ў мой нататнік... Караткевіч раскінуў свае рукі і, як штосьці дарагое, што сімвалізуе жыццё, абняў нашых дзяўчат, пазіруючы фатографу "Гродзенскай праўды". Побач з дзяўчатамі стаяў і я, радуючыся, што "засвяціўся" з самім Караткевічам".*



***- Не абышоў ты ўвагай і ўдзел лідзяніна ў здымках мастацкага фільма па рамане Караткевіча...***

- Вядома, што па рамане Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ў 1967 годзе была знята аднайменная кінастужка, якая мае прамое дачыненне да жыхара Ліды Мікалая Анісімавіча Удовіка. У гэтай трагікамедыі, якую кінакрытыкі называюць энцыклапедыяй народнага жыцця Беларусі XVI стагоддзя, Мікалай Удовік здымаўся разам са знакамітымі савецкімі артыстамі. Фатаграфіі з месца здымак дагэтуль захоўваюцца ў яго сямейным альбоме. А трапіў ён на здымкі фільма наступным чынам. У той год Мікалай Анісімавіч разам з жонкай адпачываў у Ялце, у санаторыі Міністэрства абароны. Туды прыехалі прадстаўнікі "Беларусьфільма" і адабралі некалькіх чалавек для здымак у кінакарціне, у тым ліку Мікалая Удовіка. Чатыры дні разам з іншымі акцёрамі масоўкі ён удзельнічаў у стварэнні эпізодаў для фільма.

- У верасні гэтага года, - адзначае ў канцы нашай гутаркі Алесь Хітрун, - я ўдзельнічаў у экскурсіі па вуліцах Менска. Гідам быў мой даўні знаёмы і калега Павел Каралёў. У ходзе экскурсіі мы ўбачылі дом на вуліцы Чарнышэўскага, 7, дзе жыў Уладзімір Караткевіч. Менавіта ў гэтым доме, у сваёй халасцяцкай аднапакаёўцы на пятым паверсе, у 1965 годзе Караткевіч пэўны час трымаў... мядзведзяня Тупу, мыў яго ў ванне, абціраў ручніком, як дзіця, а потым раніцай, каб не пужаць людзей, выводзіў мядзведзяня на павадку на здымкі савецка-чэхаславацкага мастацкага фільма "Пушчык едзе ў Прагу" (Тупу ў фільме звалі Пушчыкам). Пра гэтага ручнога звярка пісьменнік планаваў напісаць твор, але далейшы лёс Тупы склаўся трагічна, і Караткевіч цяжка пераносіў боль ад той трагедыі. Такі вось незвычайны факт з біяграфіі пісьменніка, які любіў і людзей, і жывёл.



*Гутарыў*
**Аляксей КРУПОВІЧ.**

* Пэўны час у Лідзе былі дзве газеты: гарадская "Уперад" і раённая "Сцяг працы".

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 28.12.2020 г. у 17.00. Замова № 2744.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.